ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.22 (3142) ● ● ЧАЦВЕР, 18 чэрвеня, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY



ГОД РОДНАЙ ЗЯМЛІ

## І багацце, і гонар, і пашана

### Пра Белавежскую пушчу, беларускія ручнікі і Нацыянальную бібліятэку расказваюць кнігі выдавецтва "Беларусь"

**Іван Ждановіч**

Важкія тамы — як паліграфічныя адлюстраванні трох дрэваў-веліканаў. Трох стваловў беларускай культуры, якія каранямі сілкуюцца ў даўніне, а кронамі высока намацваюць будучыню. Сімвалічна, што менавіта ў Год роднай зямлі гэтыя кнігі пабачылі свет.

Тут людзі спрадвеку жывуць у згодзе з прыродай, з павагай да яе законаў — і таму ў нас захавалася непаўторная, на ўвесь свет знакамітая пушча. А вось цяпер ёсць і кніга "Белавежскае дзіва".

Нашы вочы і душы здольныя не проста бачыць прыгажосць, адчуваць гармонію сусвету — мы рукамі сваімі ўмеем рабіць свет прыгажэйшым. Кніга "Повязь часоў. Беларускі ручнік" таму сведчаннем.

Шанаваць веды, паважліва ставіцца да кнігі навучаны землякі Ефрасінні Полацкай і Францыска Скарыны, таму мы маем і вялізны кнігазбор, і непаўторны будынак-крышталь для зберагання кніжных скарбаў. І, урэшце, салідны том "Нацыянальная бібліятэка Беларусі".




ІВАН ЖДАНОВІЧ

Новыя кнігі прадстаўляюць Вячаслаў Паўлавец, Ігар Бышнёў і Раман Матульскі

На прэзентацыі гэтых трох кніг, якая праходзіла ў Нацыянальнай бібліятэцы, гаварылася пра добрую традыцыю "кніжных хрэсьбінаў", на якой чытачы, прадстаўнікі бібліятэк і СМІ віншуюць "бацькоў"-стваральнікаў і знаёмяцца з "нованароджанымі" тамамі. Прадстаўляліся новыя, "яшчэ цёплыя, з друкарскіх станкоў" выданні.

Пачалі з Белавежскай пушчы, у якой, як вядома, сёлета 600-годдзе. Хоць і стварылі кнігу "Белавежскае дзіва" навукоўцы, — супрацоўнік Бярэзінскага біясфернага запаведніка Ігар Бышнёў і супрацоўнік Нацыянальнага парка "Белавежская пушча" Мікалай Чэркас — ды атрымалася выданне прывабным, цікавым і для спецыялістаў, і нават для дзяцей. "Пушча — тэрыторыя-рэкардсмен па колькасці старых дрэваў, розных экасістэм, разнастайнасці арганізмаў, — расказаў Ігар Бышнёў. — Нам было важна паказаць, як цесна спалучаны ў жыцці пушчы і гісторыя, і культура народа, і прырода. У пяці раздзелах кнігі спрабавалі тыя ўзаемасувязі адлюстраваць, і таму яна не зусім звычайная". Эколаг Ігар Бышнёў, вядомы і як рэжысёр, пераможца міжнародных тэле- і кінафестываляў, назваў выданне друкаваным варыянтам прыгожага, глыбокага, часам філасофскага кінафільма, са сваёй адметнай пабудовай і рэжысурай. Большасць здымкаў, а іх у кнізе звыш 700, надрукаваны ўпершыню. Шмат ілюстрацый з зубрамі, пейзажаў запаведнага лесу, сабраны унікальныя фотаматэрыялы пра наведванне пушчы знакамітымі асобамі.

Пра традыцыі народнай творчасці расказвае ў сваёй працы мастацтвазнаўца Вольга Лабачэўская. Фотаальбом "Повязь часоў. Беларускі ручнік" — багата ілюстраваны аповед пра ткацтва, вышыўку, карункі, даследаванне адметнасцяў нацыянальнага арнамента. Мастак Вячаслаў Паўлавец, які працаваў над выданнем і прадстаўляў яго, адначыў, што кніга атрымалася адметнай, бо "аўтар высока паставіў планку, паспрабаваў пранікнуць у духоўную сутнасць узораў, пакінутых нам у спадчыну". Тут да месца заўважыць: тканыя, вышываныя ручнікі, якія можна назваць рукатворнымі летапісамі душаў, памкнёных да прыгажосці, сталі сімваламі беларускай нацыі. Але цяпер іх, на жаль, амаль не робяць. Гэта — краса, якая знікае. І выданне, на думку В. Лабачэўскай, засяроджвае ўвагу на сапраўдных каштоўнасцях, якімі мы можам ганарыцца нароўні з Белавежскай пушчай ці Нацыянальнай бібліятэкай. → Стар. 2

ВЕСТКІ

## Добрая традыцыя перамагаць

**Лаўрэат Прэзідэнцкага фонда падтрымкі таленавітай моладзі Анатоль Сіўко бліскуча пацвердзіў высокую рэпутацыю школы беларускага вакалу на VI міжнародным конкурсе маладых оперных спевакоў імя Клаўдзіі Таэў, які прайшоў у эстонскім горадзе Пярну. Аб гэтым рэдакцыі паведаміў Генеральны консул Беларусі ў Таліне Аляксандр Астроўскі**

Студэнту першага курса Маладзечанскага філіяла Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, які да таго ж быў самым маладым удзельнікам прэстыжнага спаборніцтва, не было роўных сярод 30 выканаўцаў з Арменіі, ЗША, Канады, Карэі, Кітая, Латвіі, Літвы, Расіі, Сербіі, Украіны, Фінляндыі, Францыі, Эстоніі і Японіі. Старшыня журы, славутая польская оперная спявачка Тэрэса Зуліс-Гара ўручыла Анатолю другі прыз (першы не прысуджаўся). Разам з ім беларускі спявак заваяваў і права выканаць вядучую партыю ў адной з оперных пастановак, якую плануе на сцэнах Таліна і Пярну вядомы дзеяч культуры Эстоніі, мастацкі кіраўнік і дырыжор аркестра "XXI стагоддзе" Эркі Пехк.

Гэта не першая перамога беларускіх выканаўцаў у міжнародных конкурсах, якія адбыліся сёлета ў Эстоніі. Так, лепшым у сваёй узроставай групе на конкурсе маладых піяністаў імя І.-С.Баха ў Нарве стаў выхаванец Полацкай дзіцячай школы мастацтваў Мікіта Куляшоў. Салістка народнага тэатра песні і музыкі "Мархавім" з Віцебск Яна Курыленка была першай на III міжнародным конкурсе маладых эстрадных выканаўцаў "Песні Лагны", а мінчанка Ірына Кучынская — на X міжнародным конкурсе старадаўняга рускага раманса імя Ізабэлы Юр'евай у Таліне.

## Запамінальная экспазіцыя ў Астане

### Шырокі спектр прапаноў засведчыла Нацыянальная выстава Беларусі ў Казахстане

Увазе наведвальнікаў выставы ў Астане быў прапанаваны шырокі спектр прамысловых і спажывецкіх тавараў беларускай вытворчасці. Буйныя экспазіцыі прадставілі міністэрствы сельскай гаспадаркі і харчавання, адукацыі, архітэктуры і будаўніцтва, канцэрны "Белнафтахім", "Беллегпрам" і "Беллеспапераапрам", Дзяржаўны камітэт па навуцы і тэхналогіях, Нацыянальная акадэмія навук Беларусі. Шырокі ўдзел у выставе прынялі прадпрыемствы прамысловай, транспартнай і паліўна-энергетычнай сфер эканомікі. Агульная плошча экспазіцыі "БеларусьЭКСПА-2009" склала амаль паўтары тысячы квадратных метраў.

У межах выставы прайшла прэзентацыя навукова-тэхнічнага патэнцыялу Беларусі, адбыўся круглы стол "Супрацоўніцтва ў галіне транспарту", была праведзена дэгустацыя прадукцыі канцэрна "Белдзяржхарчпрам" і прадпрыемстваў Мінсельгасхарча. Плённымі былі і сустрэчы прадстаўнікоў дзелавых колаў абедзвюх краін. Беларускі бок пацвердзіў, што зацікаўлены прыняць удзел у рэалізацыі дзяржаўных і рэгіянальных праграм Казахстана па развіцці сельскай гаспадаркі, жыллёвага і дарожнага будаўніцтва, машынабудавання. Цікавасць для беларускіх прадпрыемстваў уяўляе і супрацоўніцтва ў паліўна-энергетычнай і транспартнай сферах.



БЕЛТА

Камбайны "Гомсельмаша" запатрабаваны ў Казахстане

# Рукатворны вобраз

## Магілёўскія майстрыхі ствараюць кампазіцыю "Салют Перамогі"

**Сяргей Кулягін**

Гэта будзе вялікая кампазіцыя, складзеная з асобных карцін-фрагментаў.

Па словах адной з удзельніц праекта Таццяны Пятрэнкі, на стварэнне манументальнай работы, прысвечанай Дню горада і 65-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, магілёўскіх рукадзельніц натхніў Полацкі рукатворны абярэг, створаны да 1145-годдзя горада. Ідэю падтрымала абласное грамадскае аб'яднанне "Рускі Дом". Энтузіясты разаслалі ў пасольствы Беларусі ў розных краінах зварот да землякоў з прапановай паўдзельнічаць у добрай справе, а таксама ў адрас прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці з просьбай даць рукадзельніцам матэрыял для работы.


БЕЛТА
Галіна Жарыкава і Таццяна Пятрэнка абмяркоўваюць дэталі праекта

На сённяшні дзень большая частка галоўнага пано з дапамогай магілёўскіх майстрых, якія аб'ядналіся ў клуб "Яселка", ужо зроблена. Жанчыны ствараюць свае аплікацыі са шматкоў тканіны дома, а па чацвяргах збіраюцца ў гасцінным доме Таццяны Пятрэнкі, дзе сшываюць іх і абмяркоўваюць далейшую працу. На першым этапе ўся кампазіцыя будзе складацца з трох полак, у якія ўвойдзе 65 фрагментаў-карцін магіляўчанак і яшчэ дзесяць, падораных гораду майстрамі з іншых рэгіёнаў Беларусі.

Галоўнае месца ў цэнтры пано займае герб Магілёва, а па баках палотнішча ўпрыгожаць вышытыя помнікі гісторыі і архітэктуры горада на Дняпры. Аснову кампазіцыі складуць малюнкі, выкананыя ў самай рознай тэхніцы шыцця: вышыўка крыжыкам, аплікацыя, з ужываннем элементаў вязання, бісерапляцення, макрамэ і гэтак далей. Гэта не толькі ўзоры, выкананыя з тканіны, але і нацюрморты, пейзажы, сюжэты з гарадскога жыцця. Сярод рукатворных малюнкаў ёсць нават аблічча Хрыста і фрагмент з вышытымі вершаванымі радкамі мясцовай паэтэсы Раісы Смаляковай, прысвечанымі 23 дням абароны Магілёва.

Пасля завяршэння асноўнай часткі праекта майстрыхі маюць намер прэзентаваць пано на ўрачыстасцях, прысвечаных Дню горада і 65-годдзю вызвалення Беларусі, якія пройдуць у Магілёве. Пасля гэтага работа над магілёўскім пакрывалам "Салют Перамогі" будзе працягнута да святкавання ў 2010 годзе яшчэ адной знакавай юбілейнай даты — 65-годдзя Перамогі над фашысцкімі акупантамі.

## І багацце, і гонар, і пашана

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Раман Матульскі, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі і аўтар праекта па стварэнні кнігі ёй прысвечанай, падзякаваў творчы калектыў, які складаўся з прадстаўнікоў і бібліятэкі, і выдавецтва, за плённую працу. Раней, заўважыў ён, выпускаліся буклеты, зборнікі, а вось такое салiднае выданне — толькі цяпер. "І гэта заканамерна, бо ў нас, як казалі раней у млыне, завозна, — прадоўжыў думку дырэктар. — Нядаўна была прэм'ера фільма "Крышталь душы". У кнігу ж трапіла яшчэ больш матэрыялаў, у тым ліку і з даўняй гісторыі стварэння бібліятэкі. Мы спрабавалі падступіцца да гэтага тома раней, пасля пераезду, але ж не прыгожыя сцены, а людзі самае важнае. Цяпер тут віруе жыццё. Беларусы нездарма кажуць: храм павінен быць намолены, карчма — наспевана, ну а бібліятэка, натуральна, начытана…" У выданні, сапраўды, адлюстравана як багатая гісторыя бібліятэкі, так і этапы ўзвядзення унікальнага будынка, яе шматаблічны сённяшні дзень.

# Калі адгукаюцца сэрцы

## Ірландцы і беларусы разам рэалізуюць дабрачынныя праекты

**Іван Ждановіч**

Ну як мне яго зразумець?.. Вільям О'Мара, ці папросту Лім, як называюць яго сябры — ірландзец, да таго ж манах, "хрысціянскі брат". Абаяльны, як і ягоны знакаміты зямляк-акцёр Шон О'Конэры. Няведанне мною ірландскай мовы, вядома ж, перашкода. Зрэшты, мой субяседнік за час, што жыве ў Беларусі, паспеў няблага вывучыць і рускую. А калі патрэбна, мы звяртаемся па дапамогу да Марыі Міцкевіч, кіраўніка грамадскага аб'яднання "Дзіцячы фонд духоўнага і культурнага адраджэння "Сакавік": унучка Якуба Коласа добра ведае англійскую. Размаўляем у прасторным мансардным пакоі мінскага "дома, які збудаваў Лім". Праўда, больш гаворыць Юрый Крук. Ён партнёр Ліма ў дабрачынных справах, прычым вельмі дасведчаны.

"Мы даўно і плённа супрацоўнічаем з ірландскай дабрачыннай арганізацыяй "Барэнскі чарнобыльскі праект", якую ўзначальвае Лім, — гаворыць Юрый Крук. — Разам апякуемся дзіцячымі дамамі па ўсёй Беларусі (будаўніцтва, рамонт, гуманітарная дапамога, адараўленне), падтрымліваем дзённыя цэнтры для дзяцей-інвалідаў. І гэтыя "дом, які збудаваў Лім", цалкам узведзены і ўтрымліваецца на ахвяраванні ірландцаў. А рабілі ўсё мы самі, маю на ўвазе членаў Беларускай асацыяцыі бацькоў дзяцей-інвалідаў з Заводскага раёна Мінска. Нядаўна для зручнасці кантактаў створаны і беларускі гуманітарны фонд "Добра тут", названы так па прапанове Ліма. Калі ў час першых наведванняў Беларусі ў сярэдзіне 90-х у Ліма запыталі "Добра тут?", то ён усміхнуўся, яму вельмі спадабалася такое словазлучэнне. І вось словы сталі справай…"


Вільям О'Мара заўсёды гатовы адгукнуца на чужы боль

Рыхтуючы артыкул, я знайшоў у інтэрнэце такі факт: яшчэ ў 2000–2001 гадах фонд "Сакавік" атрымаў ад ірландцаў "25 гуманітарных грузаў агульнай вагой 77 000 кг і коштам звыш 130 тысяч долараў ЗША". Сёння маштабы дапамогі яшчэ большыя.

Юрыя прывяла ў дабрачыннасць хвароба сына: інфекцыя, цяжкія наступствы, цяпер хлопцу ўжо 25 гадоў, але яму патрэбен пастаянны догляд. У Крука быў раней немалы бізнес у сферы будаўніцтва, аўтаперавозак — яго прыйшлося згарнуць. Вялікі арганізацыйны, будаўнічы вопыт аказаўся вельмі дарэчы ў "новым жыцці" былога бізнесмена. Калі бацькі дзяцей-інвалідаў шукалі сродкі на арганізацыю дзённага цэнтра, Марыя пазнаёміла іх з Лімам. Будавалі гэты дом, на два паверхі з мансардай. Тут знаходзяць дзённы прытулак і дзеці, і дарослыя з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Працуюць дзве групы, у якіх амаль 25 чалавек. Іх апекуны атрымліваюць паслугу бясплатна, амаль на 12 гадзін штодня, маюць магчымасць працаваць, некаторым знайшлася работа і ў цэнтры.

Адначасова гэтыя людзі, ірландзец і беларусы, рэалізуюць новыя дабрачынныя праекты ў Чэрвені, Смалявічах, Мар'інай Горцы… "Цяпер мы вядзем будаўніцтва, гуманітарную дзейнасць па розных дамах-інтэрнатах практычна па ўсёй Беларусі", — не ўдаецца ў доўгі пералік Юрый.

Створаны Лімам дзённы цэнтр быў адным з першых у краіне. Прадстаўнікі беларускай сацыяльнай службы ацанілі вопыт, з'ездзілі ў Ірландыю і паглядзелі, як там гэта робіцца. А цяпер ужо ёсць дэкрэт Прэзідэнта Беларусі, паводле якога падобныя цэнтры ствараюцца па ўсёй краіне. І туды ўкладваюцца як дзяржаўныя сродкі, так і тыя, што збіраюць міласэрныя ірландцы. Актыўна ўдзельнічаюць яны і ў рэканструкцыі дамоў-інтэрнатаў. Толькі ў Чэрвень, напрыклад, закупілі будматэрыялаў больш чым на 50 тысяч долараў. "Удзячнасць старшыні Чэрвеньскага райвыканкама Вільяму О'Мара, дырэктару дабрачыннай арганізацыі "Барэнскі чарнобыльскі праект" — за дабрачынную дапамогу па ўмацаванні матэрыяльнай базы аб'ектаў сацыяльнай сферы" — такое прызнанне заслуг Ліма ўбачыў я ў яго рабочым кабінеце.

…Як зразумець яго, манаха Ліма? У якога ні жонкі, ні ўласных дзяцей — адно дзесяткі тых сірот ды дзяцей-інвалідаў, якія, расказваюць, кідаюцца ірландцу на шыю, ледзь убачыўшы ў калідорах казённай установы… Не ў сэнсе мовы хочацца зразумець Ліма, а спасцігнуць стан яго душы, свядомасці. Іх арганізацыя, расказаў ён, прымала дзяцей з прычарнобыльскіх рэгіёнаў на аздараўленне, потым актывісты з Ірландыі прыехалі ў Беларусь у сярэдзіне 90-х "паглядзець, дзе жывуць гэтыя дзеці". І ён быццам бы выпадкова пазнаёміўся з Марыяй, якая з беларускага боку арганізоўвала такія паездкі дзяцей. Ён, настаўнік, працаваў на той час дырэктарам пачатковай школы ў гарадку Энестаймэнд, непадалёк ад Атлантычнага акіяна. "А потым я пачуў "добра тут", і прыехаў у Беларусь яшчэ на тыдзень, — згадвае Лім. — А ў 96-м прыехаў ажно на 6 месяцаў: працаваў у школе ў Лунінцы, выкладаў англійскую мову і сам адначасова асвойваў рускую". Гэта было вельмі цяжка, гаворыць ён, і холадна было… І ён ужо сабраўся вылятаць у аэрапорт Паўднёвы Ёркшыр, калі Марыя запрасіла яго паглядзець інтэрнат для дзяцей-інвалідаў у Чэрвені. "Мы паехалі ў Чэрвень, мы ўбачылі ўсё… — яго гаворка запавольваецца, а вочы становяцца глыбокімі і вільготнымі. — І дзякуючы ёй я тут…"

Праз шчымлівую паўзу ён ціха, але цвёрда дадае: "Там я сказаў: ірландцы будуць дапамагаць… Я не змагу пакінуць гэтую зямлю".

…Калі мы ўжо развіталіся, Юрый мне сказаў: "А вы ведаеце, Лім называе Беларусь сваёй другою радзімай…"


Добрыя сучасныя дахі — важны элемент замкавай архітэктуры


Малюнак з паштоўкі 1956 года

# Учора, сёння і заўтра Нясвіжскага замка

## Суб'ектыўны роздум з нагоды візіту ў Беларусь нашчадкаў роду Радзівілаў

**Адам Мальдзіс**


Нашчадкі Радзівілаў сёлета ў Нясвіжы


Некалі род Радзівілаў фундаваў і будаўніцтва гэтага касцёла

У канцы мая беларускія сродкі масавай інфармацыі ўдзялілі нямала ўвагі прыватнаму прыезду ў Мінск, Нясвіж, Мір дзесяці прадстаўнікоў старажытнага, у 20 пакаленняў, роду Радзівілаў. Вядома, што род даў беларускім, літоўскім, польскім землям, у цэлым Еўропе нямала вядомых дзяржаўных і культурных дзеячаў. Сярод публікацый быў і мой невялікі артыкул "Дрэва магутнае: Тры насычаныя дні на радзіме продкаў" ("СБ". 2009. 28 мая) пра сустрэчы з гасцямі на абедзе ў Пасольстве Польшчы ў Беларусі, наведванні імі мінскіх музеяў, бібліятэк і гістарычнага архіва, знаёмствы з партрэтамі, кнігамі, дакументамі, якія стагоддзямі назапашваліся ў Нясвіжы і цяпер захоўваюцца ў сталіцы.

Калі коратка падвесці вынікі візіту, то, наколькі ведаю з асабістых размоў, ім засталіся задаволены абодва бакі — і госці (рэй сярод іх вялі Эльжбета Тамашэўская, дачка апошняга, даваеннага ўладальніка Нясвіжа Альбрэхта Радзівіла, і Марцін Радзівіл, сын апошняга ардыната, намінальнага, гэта значыць фармальнага ўладальніка маёнтка Антонія Радзівіла, чый прах, паводле завяшчання, быў пахаваны ў падзямеллі нясвіжскага касцёла), і работнікі Міністэрства культуры Беларусі, супрацоўнікі музеяў і бібліятэк. Апошнія зрабілі ў час наведванняў многа карысных удакладненняў, якія датычацца розных рарытэтаў.

Але, як кажуць, у бочцы мёду не абышлося без непатрэбнай лыжачкі дзёгцю. Адна з прысутных асоб сур'ёзна ці наўмысна задала княгіні даволі неэтычнае пытанне, ці не шкада Радзівілам адабранага замка, і пані Эльжбета эмацыянальна адказала: а вам не было б шкада, калі б у вас адабралі ваш дом?! Потым гэты дыялог пашырыўся ў гіпербалізаваным выглядзе, трапіў у сродкі масавай інфармацыі. Карацей, на радасць некаторым журналістам нібыта запахла смажаным. І я ўяўляю, як яно можа каментавацца часткай дыяспары. І беларускай, і польскай.

Аднак не наша ж сённяшняя ўлада прымусіла Радзівілаў пакінуць замак (сама княгіня Эльжбета ў той час знаходзілася ў Англіі).

Памятаецца, калі я ўпершыню сустрэўся з Эльжбетай Тамашэўскай у 1992 годзе ў Лондане, прэтэнзіі да мяне гучалі куды больш рэзка: вы, бальшавікі, адабралі ад нас замак, а цяпер не аддаеце… Потым, калі праз год мы разам са спадарствам Тамашэўскімі і іх спонсарам ехалі з Мінска праз Навагрудак у Нясвіж, папрокі паўтарыліся. Але паколькі пані Эльжбета тады зрабіла для нашай культуры добрую справу — прывезла з сабой чатыры альбомы каштоўных нясвіжскіх здымкаў і дазволіла іх у сваёй прысутнасці перафатаграфаваць для архіва кінафотафонадакументаў у Дзяржынску (у адказ на гэта Міжнародная асацыяцыя беларусістаў забяспечыла спадарству Тамашэўскім пяцідзённы адпачынак у нясвіжскім санаторыі) — то я на прэтэнзіі княгіні адказваў цярпліва і з гумарам:

— Я ж не ўдзельнічаў і не мог удзельнічаць у падзеях 1939 года, таму не магу несці за іх аніякай адказнасці. Гісторыю не пераробіш назад. А, з другога боку, што шаноўная пані рабіла б цяпер з Нясвіжам? На высяленне санаторыя, рэстаўрацыю замка патрэбны шалёныя грошы, а іх, наколькі мне вядома, сёння ў Радзівілаў няма. На прэтэнзіі адкажу пытаннем: чаму ж тады Радзівілы не вярнулі ў Польшчы сабе палац у Небарове?! Ды таму што музей там, што гэта дзяржаўная ўласнасць, што сродкі вялікія спатрэбіліся б на ўтрыманне маёнтка, а гэта пад сілу толькі дзяржаве… Нават князь Антоні Радзівіл, які, у адрозненне ад вас, мае няхай намінальнае, чыста фармальнае права на нясвіжскія ўладанні, і той пра такое не гаворыць, разумеючы, што часы рашуча змяніліся. Праўда, пра Нясвіж ён таксама думае, але не як аб прыватнай уласнасці: як работнік фірмы "Шэл" мяркуе ў Нясвіжы і наваколлі стварыць танную сістэму аўтазапраўак.

У патрыятызме князя Антонія я яшчэ больш упэўніўся, калі ён у 1994 годзе прыехаў у Нясвіж разам з жонкай Ружай, яе братам, прафесарам Паўлам Чартарыйскім, і двума сынамі на міжнародную канферэнцыю. Выступаў канструктыўна, глядзеў на замак як на будучы дзяржаўны ці грамадскі музейна-культурны асяродак. Потым даў згоду стаць ганаровым прэзідэнтам фонду "Нясвіж", заснаванага Беларускім фондам культуры, мясцовымі ўладамі.

Між тым цікавасць да Нясвіжа, яго скарбаў, схаваных, па розных звестках, у 1812 годзе ў падзямеллі, узрастала. Адначасова з-за недахопу фінансавання пачаў разбурацца замак, у якім дажываў свой век калгасна-саўгасны санаторый. Паратунак бачыўся ў прыстасаванні унікальнага будынка пад якую турбазу. Мінскі прадпрымальнік Ігар Клюеў, атрымаўшы дазвол, стаў у 1995 годзе ачышчаць ад друзу доўгія і глыбокія, у некалькі павярхаў, лёхі-хады, каб размясціць там атракцыйныя кавярні, падпісаў дамову, што яму пяройдзе 25 працэнтаў знойдзеных багаццяў. І тут на няшчасце ў адзін з раскапаных шурфаў уваліўся хлопчык, выратаваць якога не ўдалося. Узняўся скандал. Абставіны трагедыі вывучала камісія, у якую ўключылі і мяне. З цяжкасцю прабіраліся мы па падземных калідорах, дзе мяне найбольш уразілі вялікія шчыліны ў каменных і цагляных падмурках. "Загіне такая гістарычная каштоўнасць! — свідравала галаву думка. — Каштоўнасць еўрапейская. Тварэнне вялікага італьянскага майстра Бернардоні. Дзе паратунак?"

Такое ж пытанне задаў нам і тагачасны старшыня Нясвіжскага райвыканкама Уладзімір Дражын, побач з якім знаходзіўся прадстаўнік Адміністрацыі Прэзідэнта. Члены камісіі доўга сядзелі моўчкі, думаючы, дзе можна ўзяць грошы. Тады я рашыўся:

— Нясвіж патрэбны для дзяржавы. Не толькі як помнік архітэктуры і музей, але і як сімвал, урадавая, прадстаўнічая рэзідэнцыя для падпісання самых важных актаў. І таму толькі дзяржава можа ўратаваць Нясвіж.

Словы гэтыя былі ўспрыняты з разуменнем. Але адначасова выклікалі хвалю негатыву за рубяжом. Дайшлі да князя Антонія Радзівіла. Ва ўсякім выпадку, праз які тыдзень да мяне, у Цэнтр імя Скарыны, прыехаў з Варшавы прафесар Павел Чартарыйскі, з якім мы ўжо былі добра знаёмыя. Задаў пры каве два пытанні: ці сапраўды я так сказаў і ці сапраўды так думаю? На гэта я адказаў: "А хіба пан прафесар мае нейкую рэальную альтэрнатыву?!"

Альтэрнатывы не было. Ні тады, ні пазней. Праз пэўны час пачалося запаўненне дакументаў на стварэнне музея-запаведніка.

— Памятаецца, — згадвае старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, — у дакументацыі было прадугледжана, што ў выпадку неабходнасці музей на нейкі час ператвараўся б ва ўрадавую рэзідэнцыю — так, як гэта робіцца ў іншых краінах. Гэта падкрэслівала б даўнія карані нашай дзяржаўнасці.

Урэшце пачалася рэстаўрацыя замка. Не без памылак, на жаль. Не той шлем устанавілі на ўязной вежы. Не параіліся з зарубежнымі спецыялістамі, як быць са сцяной адной з галерэй. Рэстаўратараў сур'ёзна крытыкаваў Прэзідэнт. І ўсё ж беларуска-польская камісія экспертаў, якая засядала ў Нясвіжы ў канцы мінулага года, у цэлым станоўча ацаніла вынікі. Ведаю гэта з вуснаў ганаровага старшыні камісіі прафесара Анджэя Цеханавецкага (Лондан), нашчадка князёў Мсціслаўскіх і Заслаўскіх.

А крыўды княгіні Эльжбеты я таксама добра разумею: цяжка расставацца з мроямі-успамінамі дзіцячых гадоў. Асабліва, калі на іх наступае няўмольная хада гісторыі. Аднак супраць таго, што ў замку поўным ходам ідуць рэстаўрацыйныя работы, якія павінны завяршыцца ў 2010 годзе, госця, здаецца, не пярэчыла…

# Дзесяць дзён для творчасці

## Свята-конкурс майстроў манументальнай драўлянай скульптуры "Сонечная цеплыня дрэва" праходзіць у Вілейцы

**Надзея Радзівон**

У свяце ўдзельнічаюць восем лепшых майстроў Міншчыны і 3 умельцы з Брэсцкай вобласці. Дзесяць дзён адведзена ім, каб паказваць сваё майстэрства. Па ўмовах конкурсу яны павінны вырабіць не меней двух вырабаў традыцыйнага характару (драўляную скульптуру, дэкаратыўнае пано і іншае), выкарыстоўваючы розныя віды і тэхналагічныя прыёмы мастацкай апрацоўкі дрэва. Усімі неабходнымі матэрыяламі канкурсантаў забяспечыў Вілейскі райвыканкам.

Як паведаміў загадчык аддзела традыцыйнага мастацтва Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці Віталь Каспяровіч, скульптуры майстроў упрыгожаць Вілейку і іншыя месцы раёна. Будуць названы пераможцы па чатырох намінацыях: "За захаванне і творчае развіццё традыцый разьбярства па дрэве", "За высокае майстэрства і мастацкі густ", "За творчую фантазію", "За творчы дэбют".

У мінулыя гады конкурсы "Сонечная цеплыня дрэва" прайшлі ў Крупскім, Валожынскім, Старадарожскім раёнах, у наступным годзе майстроў прыме Клецкі.

Віталь Каспяровіч адзначыў, што культурнае жыццё Міншчы-ны немажліва прадставіць без народнага мастацтва. Умельцы прымаюць удзел у розных фестывалях, святочных мерапрыемствах, гарадах майстроў. Ва ўстановах культуры займаюцца больш за 60 тысяч дарослых і дзяцей, з іх каля 10 тысяч прысвячаюць вольны час дэкаратыўна-прыкладнаму і выяўленчаму мастацтву. У Мінскай вобласці працуюць звыш 4 тысяч майстроў, яны развіваюць больш за 40 кірункаў дэкаратыўна-прыкладнага мастацтва, прычым амаль 60 умельцаў займаюцца менавіта манументальнай скульптурай.



Майстар Іван Супрунчык і яго творы

Улінэ Сціг:

# "Я сустрэла шмат цікавых людзей"

**Ніна Шпакоўская**

**Нядаўна ў Мінску былі шведскія празаікі і паэты. Іх сустрэча з беларускімі літаратарамі стала толькі адным са шматлікіх мерапрыемстваў Дзён культуры Швецыі ў Беларусі**

Усе творы на вечарыне гучалі ў выкананні саміх аўтараў. Напачатку меланхоліяй і душэўнасцю напоўніў залу Алесь Разанаў, які прэзентаваў паслу Швецыі ў Беларусі Стэфану Эрыксану сваю новую кнігу зломаў «Сума немагчымасцяў». Сам спадар Эрыксан шчыра прызнаўся, што ён сапраўды зацікавіўся беларускай культурай і палюбіў яе. Так сталася, дзякуючы нашым пісьменнікам, літаратарам, музыкам.

— Дні культуры Швецыі ў Беларусі праходзяць ужо восьмі раз. І мы заўсёды стараемся не толькі прадставіць шведскіх творцаў, але і арганізаваць паўнавартасную шведска-беларускую імпрэзу. Цікаўцеся шведскай культурай, але перш за ўсё паважайце і любіце сваё роднае слова і сваіх пісьменнікаў, — адзначыў пасол.



Улінэ Сціг выступае ў Мінску

З шведскага боку ў мерапрыемстве прынялі ўдзел пісьменнік Мікаэль Нiэмі, пісьменнік і журналіст Петэр Фроберг Ідлінг, аўтар песень, прадзюсер і выканаўца Андрэас Матсан, пісьменніца Улінэ Сціг і спявачка Аніка Нурлін. Выступленне Анікі было адным з самых эмацыянальных і запамінальных за гэты вечар. Яе чуллівыя напевы пра каханне ўстрывожылі ўспаміны і абудзілі мары. Нездарма ў 2007 годзе Аніка атрымала шведскую ўзнагароду «Grammis» як лепшая выканаўца сярод жанчын і лепшы аўтар тэкстаў.

Сваімі ўражаннямі пра Беларусі падзялілася пісьменніца, прадстаўніца кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Швецыі Улінэ Сціг:

— Я ў вашай краіне толькі адны суткі, але для мяне яны як цэлы тыдзень. Я сустрэла шмат цікавых людзей, і з усімі я размаўляла быццам з добрымі знаёмымі. Гэта вельмі прыемна.

Узаемапаразуменню двух культур не перашкодзілі нават моўныя межы. Як заўважыла пісьменніца Людміла Рублеўская, усе паэты пішуць на адной мове, а таму здольны заўсёды зразумець адно аднаго. Пераклады шведскіх твораў не сталі «пацалункам праз шкло», як назваў працу з замежнымі акцёрамі рэжысёр Пётр Фаменка, і дазволілі прысутным адчуць прыгажосць паўночнага слова.

Падчас Дзён шведскай культуры беларускія гледачы здолелі пазнаёміцца з сучасным шведскім кіно, якое было прадстаўлена ў Мінску такімі рэжысёрамі як Ян Труэль, Даніэль Альфрэдсан, Енс Ёнсан і Амір Чамдзін. Меламаны ж атрымалі асалоду ад скандынаўскага фры-джазу ў выкананні Матса Густафсана, чый сумесны канцэрт з беларускім саксафаністам Паўлам Аракелянам прайшоў у Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

ПРА ШТО СЛОВА ГАВОРЫЦЬ

## Адметнасць і непаўторнасць

**Беларуская мова тоіць шмат загадак, разгадаць якія па сілах часам толькі самым упартым і дапытлівым**

У нашай мове, як і ў любой іншай, шмат слоў, што абазначаюць блізкія, але не цалкам тоесныя паняцці. Вось з іх ужываннем і ўзнікаюць праблемы. Сярод такіх — **рахунак**, **лік** і **кошт**. Каб разабрацца і не памыляцца, патлумачу кожнае з іх.

**Рахунак** — тэрмін эканамічны. І такім знаёмым нам усім рускім спалучэнням *лицевой счет, текущий счет* у беларускай мове адпавядаюць словазлучэнні **асабовы рахунак** і **бягучы рахунак**. І *открыть счет* — па-беларуску **адкрыць рахунак**.

**Лік** — тэрмін спартыўны. І калі мы абмяркоўваем футбол, валейбол, іншыя гульні, то патрэбна казаць **адкрыць** або **зраўняць лік**.

У значэнні "сродкі, фінансы" рускае слова **счет** перакладаецца на беларускую мову як **кошт**. Такім чынам, *содержать на свой счет* — гэта **ўтрымліваць на свой кошт**.

Моўнае багацце і непаўторнасць вельмі яскрава выяўляюцца ў словах, якія абазначаюць спецыфічныя для пэўнага народа паняцці і прадметы. Кожная мова мае таксама свае мадэлі пабудовы слоў, словазлучэнняў і сказаў. Адну з іх і разгледзім.

Многія дзеясловы ў беларускай мове ўтварыліся з дапамогай прыставак і не маюць аднаслоўных адпаведнікаў у рускай. Сярод такіх — **здарожыцца, злеціцца**. Слова **здарожыцца** сустракаецца ў мастацкай літаратуры, у песнях. Яно ўжываецца ў дачыненні да чалавека, які стаміўся ў дарозе. Так, у Максіма Лужаніна чытаем: "*Давыдка здарожыўся і драмаў за сталом, прыхіліўшыся да цёплага матчынага пляча*".

А вось **злеціцца** — гэта зрабіцца па-летняму цёплым. Так кажуць, напрыклад, пра ваду. У Івана Пташнікава чытаем: "*... вада і не падумала злеціцца такой гарачынёй*".

Падрыхтавала **Веранiка Бандаровіч**

# Фестывальная бронза "Кадэта"

**Эдуард Півавараў**

**Мастацкі фільм беларускага рэжысёра Віталя Дудзіна ўдастоены "Бронзавага Віцязя" XVIII Міжнароднага кінафестывалю "Залаты Віцязь", які праходзіў у расійскім горадзе Ліпецку**

Шэраг беларускіх стужак, якія ўдзельнічалі ў кінааглядзе, адзначаны спецыяльнымі ўзнагародамі фестывалю. Так, прыз Ліпецкай епархіі і дыплом "За лепшы праваслаўны фільм" прысуджаны анімацыйнай стужцы Ірыны Кадзюковай "Старадаўняя аповесць пра жыццё і каханне". У конкурсе дэбютных і студэнцкіх фільмаў дыплома "За летапіс пакалення, якое сыходзіць" удастоена маладая беларускі рэжысёр Кацярына Махава (фільм "Коліш"). А ў конкурсе фільмаў для дзяцей спецдыплома "За арыгінальнасць ідэі фільма" ўдастоена карціна "Навагодняя прыгоды ў ліпені" Алены Туравай і Івана Паўлава. Акрамя таго, дыплом "За вяртанне забытага імя і ўзбагачэнне культурнай спадчыны народаў Беларусі і Расіі" атрымаў рэжысёр Анатоль Алай, які зняў кароткаметражную дакументальную стужку "Пётр Конюх".

Сёлета ў "Залатым Віцязі" прымалі ўдзел звыш 200 фільмаў розных жанраў з 24 краін, якія змагаліся ў сямі фестывальных конкурсах: сярод ігравых поўнаметражных фільмаў, тэлевізійных ігравых, дзіцячых, поўнаметражных дакументальных, кароткаметражных дакументальных, анімацыйных фільмаў і студэнцкіх і дэбютных работ. Гран-пры фестывалю прысуджана расійскаму фільму "Тарас Бульба".



Актрыса Г. Кухальская і рэжысёр В. Дудзін

**Заснавальнік:** Рэдакцыя газеты «СБ»
**Рэдактар** Віктар Харкоў
**Адрас:** пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61**
**Тэлефон рэдакцыі:** +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
**Бюро па рэкламе:** Тэл. +375 17 290—60—11
**E—mail:** golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
**Аб'ём выдання:** 1 друк. арк.
**Тыраж:** 2000
**Заказ:** 731